# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

№ 3. | Жнівень 1921. | год І.

## СЕЛЯНЕ!

**Наша сіла — ў арганізаванасьці нашай!**

**Цясьней гуртуйцеся каля „Селянскай Сувязі“!**

**Арганізуймося!**

**Чытайце і пашырайце вашу селянскую часопіс!**

**Усьведамляйце адсталых!**



*Жнівень 1921 г.*

Што і казаць. Усім гэта добра ведама. Яшчэ не так даўна сьвядомых беларускіх ґрамадзян было надта мала. А рэшта лічылі сябе або расейцамі, або палякамі. Праўда, былі і такія, што называлі сябе „тутэйшымі“. А каб прызнацца беларусам — гэта было вялікае дзіва.

Гэтак было да рэвалюцыі 1917 г. Сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя, што гуртавалася, каля часопісі „Наша Ніва“ старалася як мага больш знайсьці сабе прыхільнікаў, ласьне такіх адважных беларусаў, што аткрыта прызнаюць сваё беларускае нацыянальнае паходжаньне: Гэта было першае і ґснаўное заданьне „Нашаніўскага“ пэрыяду адраджэнскага руху.

З часу рэвалюцыі 1917 г. справа пайшла зусім інакш. Паявілася шмат розных арганізацыяў, культурна-прасьветных устаноў. Пачалі склікацца з'езды, на якіх чулася моцнае жаданьне беларускага народу быць гаспадаром у сваей хаці. Нарэшці, 5—17 сьнежня 1917 г. у Менску быў скліканы Пе[...] [...]белару-

скі З‘езд. На гэтым з‘езде былі, амаль-што ня выключна, адны толькі селяне. Чулася магутнасьць, адчувалася моц беларускага народу да волі і лепшай сьветлай долі.

З пачуцьця сваей сілы, паўстаўшая да новага вольнага жыцьця Беларусь, вуснамі лепшых сваіх сыноў, абвясьціла на ўвесь сьвет, што ад гэтага часу німа больш кайданаў няволі. Беларусь абвешчаецца вольнай народнай рэспублікай.

Вялікія сталіся пасьледствы гэтай пастановы. Ужо ня гурток сьвядомай беларускай інтэлігэнцыі, а „грамады працоўных людзей“ — сьвядомых грамадзян вольнай Беларусі — сталі пад сьцяг змаганьня за адраджэньне роднага краю, за незалежнасьць сваей Бацькаўшчыны.

І цяпер, переражыўшы некалькі окупацый, беларускі высвабадзіцельна — адраджэнскі рух не аслабеў, а ўзмацаваўся. Цяпер шмат ёсьць беларускіх школ, ёсьць гімназіі, вучыцяльскі інстытут, беларускі тэатр, хор, некалькі беларускіх часопісаў, выдаецца ў роднай мове шмат розных кніг, брашур і школьных падручнікаў.

Сваім упартым змаганьнем беларускія палітычныя партыі з кожным днём пашыраюць круг сваей дзеяльнасьці, прымушаюць ворагаў усё больш і больш лічыцца з беларускай справай.

Дый за граніцай ужо інакш углядаюцца на адраджэньне Беларусі. Пачынаюць цікавіцца беларускім пытаньнем, пачынаюць пісаць аб Беларусі аб яе эканамічных багацьцях. Што дня ў якой небудзь загранічнай газэці знойдзіш вестку аб беларускім руху.

Прачнуліся беларусы і за акіянам. Пачалі арганізоўвацца. У Амэрыцы цяпер шпарка йдзе беларускі рух, чытаюцца лекцыі у роднай мове аб адраджэньні Беларусі.

От жа, калі мы акінемо вокам сучасны ўнутраны і міжнародовы стан Беларусі, мы сьмела можам сказаць: **Жыве Беларусь і будзе жыць!**

Апошнія падзеі ў Ашмяншчыне ясна даводзяць, што наш высвабадзіцельна-адраджэнскі рух ня ёсьць мара невялічкага гуртка романтычна настроенай інтэлігэнцыі, як аб гэтым кажуць нашы ворагі палякі, а глыбока народны рух, — гэта ёсьць рух прыгнецяных і паняволяных беларускіх селян-землябробаў.

І калі польскія паны, калі польскія палітыкі і дыплёматы, як тыя зьмеі з пад карча шыпяць, што беларусы не маюць сваей нацыанальнай сьвядомасьці, што беларусы могуць быць толькі гноем для ўзроста польскай культуры, дзеля чаго необхадна заходнюю частку Беларусі далучыць да Польшчы — селянская Беларусь на гэта ім адказывае дружным паўстаньнем — пралівае сваю гарачую кроў...

Пад Валожынам у баю беларускіх паўстанцаў з польскімі жандарамі, шмат селян было забіта і ранена, каля сотні зарыштована.

Польскія паны цяпер будуць рабіць свой суд над імі, над нашымі братамі, паўстаўшымі за праўду і свабоду, за волю нашай Бацькаўшчыны.

Што-ж, няхай яшчэ праліецца наша селянская кроў, — мы панскае ласкі ня

просім. Але няхай ведаюць крывавыя каты, што за каплю нашай селянскай крыві, палюцца рэкі панскай ды шляхоцкай крыві. Няхай успомняць польскія паны словы Кастуся Каліноўскага, сказаныя у 60-х гадах мінулага сталецьця: „сякера паўстанца не павінна застанавіцца і над калыскай шляхоцкага дзіцяці“!

Польскія паны хочуць наш беларускі высвабадзіцельна - адраджэнскі рух выставіць як бальшавіцкі.

Гэта ёсьць злосная мана!

Мы аднолькова змагаемся, як проці паноў з Варшавы, так і проці камісараў з Масквы.

**Ні паноў ні камісараў! — вось наш лёзунг.**

**Незалежная і Непадзельная Беларуская Рэспубліка! — вось наша мэта. За гэта мы і змагаемся, за гэта мы гатовы і памерці.**

Толькі сам беларускі народ на сваім Вялікім Народным Зборы вырашыць аб сваім унутраным дзяржаўным укладзе жыцьця і пастановіць аб сваіх адносінах да суседзяў!

Дык усе хто любіць волю, хто шчыра кахае свой родны край, хто не шкадуе палажыць свае жыцьцё за сьветлы ідэал роўнасьці і братоўства, хто не загразнуў у смярдзючым балоце штодзённай драбніцы сваекарысных інтэрэсаў жыць толькі для сябе, усіх прыгнеценых ды пакрыўджаных мы заклікаемо стаць у рады змаганьнікаў за праўду і справядлівасьць, стаць пад сьцяг **адраджэньня вольнай і незалежнай Беларусі.**

---

Калі хто небудзь табе скажа, што Беларусь — гэта ёсьць „Северо-Западны Край Расеі“, ці то „Ісконі Руская Зямля“, або „Усходнія Крэсы Польшчы“ — ня слухай яго, бо ён стаіць за тыя парадкі, якія даўна ўжо абрыдлі нашаму народу — ён стаіць за прывярненьне мінулых часаў гнёту, зьдзеку і паняволеньня, а дзеля гэтага — ён вораг твой і ты павінен з ім бароцца.

А калі па дурнаце сваей так будзе хто казаць — вытлумачы яму, высьвятлі ўсю праўду. Няхай кожны ведае праўду аб сваім родным краю. А калі народ усенька добра сабе ўсьвядоміць ды ня будзе такі цёмны — тагды ўсё пойдзе зусім інакш.

Дык усьведамляйце цёмных і адсталых!

# ШТО РАБІЦЬ?

Прыгнецены якім небудзь нешчасьцем, селянін ідзе да свайго суседа за парадай, часамі пытае: — скажы, браце, што рабіць, якую даць раду, каб палепшыць цяжкае жыцьцё, як выбіцца з гора і бяды?...

Добры, сумленны, сусед заўсёды прыхільна аднясецца да справы, парадзіць, тым — сім дапаможа ў бядзе, — азірнешся і гора мінула.

Гэтак бывае, калі нешчасьце трапіцца ў жыцьці аднаго чалавека, — але што рабіць, калі гэтае нешчасьце запануе ва ўсей ваколіцы, калі чорнай хмарай гора павісьне над усім краем?...

Што тады рабіць, да каго зьвярнуцца за парадай і хто дапаможа у бядзе?

Вось ужо каторы год як наш родны край церпіць нячуваныя нешчасьці, шосты год як нема супакою, нема а ніякага парадку: Усюды безладзьдзе, зьдзек, безспраў'е, голад, розныя хваробы, пошасьць.

Гаспадарка да шчэнту зруйнована, папалены вёскі, загінула жывёла, нема гаспадарскіх прыладаў. Селянін-земляроб з жахам углядаецца ў будучыну, не з радасьцю, а з праклящьцям на вуснах ён спатыкае заўтрашні дзень. Ня міла стала жыць на сьвеці, абрыдла ўжо быць жабраком, вечна хавацца па ямах - зямлянках і заўсёды быць ня пэўным за сваё запрацаванае, крывавым мазалём дабро і нават кожны дзень ня пэўным быць за сваё ўласнае жыцьцё, за жыцьцё сваіх дзяцей, сваей радні. От, проста рукі самі апускаюцца. Нема сілы, немагчыма так жыць.

Усюды стаіць здань сьмерці. Над усім жыцьцём селяніна пачынае па крыху панаваць нейкі, незразумелы для яго, страх. Страх сябе, сваіх суседзяў. Жыцьцё становіцца бязконца цяжкім, мучыцельным.

Траціцца уселякая вера ў лепшую будучыну, у паляпшэньне цяжкай долі. Селянін пачынае прыходзіць да канцавой думкі: нема на сьвеці праўды, нема справядлівасьці, — нема і Бога, — у роспачы кажа ён.

Што рабіць, дзе шукаць ратунку?!

От-жа, мы кажамо нашаму прыгнеценаму і пакрыўджанаму селяніну-земляробу: ня трэба ні плакаць ні сьмяяцца, а на сам перад трэба разумець.

Трэба разумець з куль ліха на сьвеці, трэба усьвядоміць сабе чаму, ласьне, сталася так, а не іначай. Трэба знайсьці прычыну селянскай нядолі, а тады ўжо ясна будзе што рабіць і як рабіць.

І ў запраўды, хто вінават у тым, што наша Бацькаўшчына церпіць гэтулькі нешчасьцяў?

Ясна. Віноўны гэтаму ня мы селяне, і не беларускі народ, а тыя хто ў працягу шасьці гадоў ваявалі на грудзёх нашай роднай зямелькі, палілі нашы вёскі, нішчылі народныя багацьці.

Віноўны гэтаму чужынцы, што з канца ў канец прахадзілі нашу Бацькаўшчыну. Чужынцы і цяпер яшчэ пануюць у нашым краі, чужацкія наезьнікі і цяперь грабуюць ды нішчуць нашае народнае дабро.

Польскія ды расейскія акупанты віноўны ў нашым нешчасьці, гэта яны абяздолілі і пакрыўдзілі нашу беларускую вёску, гэта яны Рыжскім дагаворам разарвалі нашу Бацькаўшчыну на часьці і прымушаюць ісьці ваяваць брата на брата і бацьку проці роднага сына.

Дык вось хто віноўны, што Беларусь церпіць гэтулькі нешчасьцяў!

І да тэй пары гэтак будзе, аж пакуль усё працоўнае селянство не арганізуецца і прагоне з роднага краю чужацкіх наезьнікаў, польскіх ды расейскіх акупантаў.

Ня трэба думаць, што так ужо на заўсёды і будзе, што нам сваімі сіламі не справіцца з акупантамі.—Зусім не!

Трэба толькі арганізавацца нам, мацней аб'еднацца каля нашых селянскіх арганізацый і вораг зразумее тагды, што проці ўсяго народу нельга ваяваць.

Сіла наша ў нашай еднасьці, у нашай арганізаваннасьці. Цяпер мы блага арганізаваны, от і крыўдзяць нас паасобку, зьдзекуюцца над намі акупанты, як ім успадабаецца. Але зусім было-б інакш, каб мы заўсёды дружна выступалі адзінай згоднай грамадой. Мы-б тагды не даліся ў крыўду.

Такім чынам, нашы агульныя селянскія інтарэсы вымагаюць таго, каб мы былі моцна арганізаваны, каб узброеннай грубай сіле „штыка і кулямёта“ акупантаў, мы праціваставалі сваю селянскую сьвядома арганізаванную сілу. Праўда на нашай старане — ну-то і пабеда будзе за намі.

І нехай сёняшні дзень для нас будзе цяжкі, нехай мы сёньнека шмат папрацуем і шмат што сцерпім — за тое сьветлы заўтрашні дзень нас чакае.

Заўтра — мы жыцьця гаспадары!

Не апускай безрадна тваіх рук, беларускі селянін-земляроб, не паддавайся бядзе, — цябе чакае шчасьце і доля.

Адкінь благія думкі, адважна глядзі ў вочы сваей будучыне — цябе чакае воля.

Адкінь старыя забабоны аб тваей слабасьці, аб тваей цемнаце, а сьпешайся стаць у рады змаганьнікаў за незалежнасьць тваей Бацькаўшчыны — будзеш гаспадаром у сваей хаце.

Арганізованна ідзі на змаганьне з лапчывым польскім панам ды шляхтай будзь стойкім у тваіх перакананьнях, памятуй аб заўтрашнім дні, ня йдзі да пана з пакорай, не паніжай свой гонар чалавечы, не прасі ў пана ласкі, а дамагайся таго, што па праву табе належыць — арганізаванай грамадой здабудзем сабе зямлю.

**Кожны народ мае права быць гаспадаром у сваім краі!**

Ніколі ня крыўдзі свайго брата селяніна, ня цягні свайго суседа ў панскі суд, рашайце усе спрэчкі паміж сябе у сваей селянскай арганізаціі — згіне тагды, як чорная мара, наша грамадзскае гора.

Памятуй, што ўсе выступленьні проці акупантаў павінны быць добра арганізаваны.

Кожны нехай усьведамляе адсталых і слабых духам, нехай тлумачыць, безупынна падтрымоўвае зьвязок з сваей арганізацыей.

Трэба добра сабе запамятаць і усьвядоміць, што толькі у вольнай і незалежнай беларускай дзержаве, селянін будзе вольным грамадзянінам, будзе мець вольную працу, будзе мець зямлі колькі ў сілах будзе сам яе абрабляць і ўвесь беларускі народ будзе магчы поўнасьцю разьвіваць усе свае духоўныя і эканамічныя багацьці.

Вось што трэба ведаць кожнаму беларускаму селяніну-земляробу!

А усьвядоміўшы ўсё гэта, ён сам тагды скажа, што трэба рабіць.

*Паддубіч.*

# Мы і Яны.

Хто Мы і хто гэта Яны?

Мы — селяне земляробы, тыбульцы гэтага краю, жыхары вёскі, а яны прыблуды нейкія, прайдзісьветы, каланісты польскія, або здрадзіўшые свайму народу князі ды баяры беларуска-літоўскія.

Мы — беларусы, а Яны — палякі.

Мы просты народ, а Яны — ўсё важныя паны ды шляхта, начальства рознае над намі.

Мы гутарым па вясковаму, гэта ё па беларуску, а Яны па польску, гэта ё па панску ды па шляхоцку і нашу мову называюць „хамскай“.

Мы, па іх думцы, маем чорную костку, а Яны белую і кроў нават у іх, нібыта, іншая.

Мы — „хамы“, а Яны — паны.

Мы створаны, па іх думцы, толькі для працы, а Яны для панаваньня, бо Яны, чамусьці, лепшыя дзеці у Бога ад нас.

Мы — працоўны народ, а Яны — гультаі, абібогі.

Мы хлеб ямо з працы сваіх уласных рук, а Яны хлеб ядуць запрацаваны чужымі рукамі, таму і прозьвішча ім чужаеды.

Мы чэсна працуемо і з гэтага жывем, а Яны займаюцца розным круцельствам ды ашуканствам.

Мы ў поце чола працуем і заўседы ў нас недахват, а Яны самі нічога ня робяць і ўдоваль усяго маюць.

Мы блага адзеты, а Яны ходзяць „у саеце ў злаце з плеч да ног“.

Наш брат худы, адна скура ды косьці, а ў іх растлусьцеўшы „як кісель дрыжыць жывот“.

Наш брат „цёмны і галодны, хацінка свой спрауляе век“, а Яны жывуць у пышна прыбраных, вельмі багатых, палацах, сьпяць у мягкай пуховай пасьцелі, пьюць заморскія віна.

Наш брат з бяды і гора ходзіць нізка апусьціўшы сваю голаў, а ў іх і крукам носа не дастаць.

Нашы дзеці ўжо з малку дзён працуюць на раўне з дарослымі, а іхнія забаўляюцца ў гульні.

Нашы дзеці не маюць асьветы, бо школ для іх няма, зачыняны дзьверы прад імі, а як для іх дзяцей, то і гувэрнанткі, і рэпэтытары, і школы ўсе даступны. А скончыўшы тую школу, дык іхнія дзеці, немяркуючы, — як той казаў — „сам ражном, а нос капылом“ сабе ходзяць. Гонару шмат маюць. Відаць ад навукі ўсё гэнай... Такая там ліха і навука.

Паміж Намі ды Імі вялікая пропасьць без дна.

Мы — рабочыя пчолы, а Яны — трутні.

Мы — авечкі, а Яны — ваўкі.

Мы ёсьцека мухі, а Яны — павукі.

Мы — людзі, а Яны — агідныя пачвары, крывавыя ўпыры.

Чаго дамагаімся Мы, а чаго дамагаюцца Яны?

Мы, беларускія селяне земляробы, жадаемо „ня быць скотам“, а ў поўным значэньні гэтага слова „людзьмі звацца“, — Мы жадаемо быць вольнымі грамадзянамі і заняць „пачэсны пасад між славянамі“. А дамагаімся Мы зямлі, волі і лепшай долі.

Яны, польскія абшарнікі паны і дробная шляхта, хочуць каб Мы былі ў іх парабкамі, нявольнікамі, рабамі, — от як гэта было ў даўно мінулыя часы паншчыны, калі нас земляробаў-селян нават і за людзей ня лічылі, а горш як з быдлам абыходзіліся.

Мы дамагаемся незалежнасьці нашай бацькаўшчыны, бо только тагды Мы будзем паўнапраўнымі гаспадарамі ў сваім краі, выбярэм наш селянскі ўрад, бедзем мець зямлю, волю і лепшую долю.

Яны, як польскія каланісты, разглядаюць наш край, толькі як калонію Польшчы, як мейсца для каланізацыі, а дзеля гэтага Яны дамагаюцца далучыць наш край да Польшчы і насяліць яго польскімі жаўнерамі, каб тыя, от нібы жандары — даглядалі за нашым народам

Мы дамагаемся поўнасьцю высвабаджэньня Беларусі з пад палітычнага, соцыяльнага, нацыанальнага і культурнага ўціску.

Яны дамагаюцца, каб нашу айчызну Беларусь паняволіць.

Мы дамагаемся адраджэньня Беларусі, як самаістай нацыанальнай адзінкі.

Яны дамагаюцца каб задушыцл адраджэньне Беларусі.

Мы стаім за адраджэньне беларускай культуры, за грунтоўнае ўзмацаваньне ў шырокіх слаёх грамадзянства маральноэтычных ды эстэтычных асноў жыцьця.

Яны стаяць за тое, каб задушыць адраджэньне беларускай культуры, а каб наш брат селянін у сваім разьвіцьці ня рожніўся ад жывёліны.

I так, — паміж намі ды Імі ляжыць глыбокая прорва.

Мы стаім за незалежнасьць Беларусі, — Яны за далучэньне Беларусі да Польшчы.

Мы за перадачу ўсей зямлі тым, хто сам на ей працуе, — Яны стаяць проці гэтага.

Мы за перадачу усей зямлі беларускаму селянству, — Яны за перадачу беларускай селянскай зямлі польскім жаўнерам.

Мы стаім за праўду і справядлівасьць, — Яны стаяць за ману і ашуканства.

Мы стаім за волю, — Яны стаяць за гнёт і паняволеньне.

А дзеля гэтага паміж Намі ды Імі ня можа быць а ніякога паразуменьня, а ніякай згоды. Адно толькі — змаганьне. Гэтае змаганьне Мы павінны весьці не на жывот, а на сьмерць — або памёрці, або перамагчы. Іншаго выхаду няма. Бо ўсё роўна жыцьця нам ніякога ня будзе, калі Яны верх над намі возьмуць.

Нас большасьць — Іх меншасьць.

За Намі права і справядлівасьць, а за Імі толькі грубая сіла штыка і кулямёта, якая Нас цяперака душыць.

От-жа, проці сілі, Мы працівапаставім права. Мы натуральнае маем права на жыцьцё, на волю, на зямлю, на разьвіцё роднай культуры, на дзержаўную незалежнасьць нашай айчыны. Мы натуральнае маем права быць гаспадарамі сваей ўласнай долі. У сваей хаце хочым і маем поўнае права па свайму распараджацца.

Але з опыта Мы ведаем—бо жыцьцё шмат чаму Нас навучае, — што адно права без падтрымкі яго сілай нічога не варта, гэта па крайней меры; у сучасны пэрыад людзкога жыцьця. Знакам тым, неабходна і Нам арганізаваць сваю сілу.

Ці ёсьць у Нас такая сіла?

У Нас сілы ёсьць даволі. Гляньце, колькі слаўных, маладых хлопцаў у нас ёсьць. Гэта-ж цэлая армія вышла-б. Трэба толькі арганізаваць гэтую армію. Неабходна зараз-жа прыступіць да справы. Той хто знаём з вайсковай справай — а такіх у кожнай вёсцы ёсьць не мала — няхай арганізуе каля сябе з пяцьдзесяць чалавек і абучае іх вайсковай справе, няхай навучае ўсім муштрам і

**Вольная і Незалежная Беларусь — вось тая мэта, за якую ты павінен змагацца!**

прыёмам вайсковай тэхнікі. Вось, з гэтакіх маленічкіх гурткоў і зложыцца з часам, беларуская народная армія. Гэта ўжо будзе паважная сіла і з ей будуць рахавацца Нашы ворагі.

Цяпер яшчэ ёсьць адна магутная сіла — гэта Наша еднасьць, наша паміж сябе згода. Калі мы ўсе будзем стаяць за аднаго, а кожны за ўсіх, тагды ніхто Нас не пераможыць. Справа тут у еднасьці ды арганізаванасьці. Проці дружнага ўсенароднага выступленьня ніхто нічога не парадзіць. Трэба толькі ўмела гэта зрабіць.

Выходзіць такім чынам, што Мы апрача права маем яшчэ і сілу. А калі так, то справа Наша будзе выйграна.

А ці маем Мы веру ў перамогу Нашай справы?

Калі няма веры, ня будзе адвагі. Патрэбна, каб была вера, моцная вера, каб была шчырая безкарысная адданасьць справе, каб чалавек усё забыў на сьвеці, апрача толькі справы змаганьня,—толькі тагды, само сабою, перамога за намі.

Дык вось, хто зразумеў у чым тут справа, няхай зараз-жа высьвятліць свайму суседу, падробна няхай вылажыць. А не-то сабярыцеся ўсей вёскай і абдумайце маю прапазыцыю.

Трэба толькі хутчэй, ня трэба доўга марудзіць часу, бо Яны не сьпяць, Яны, хоцяжь вуснамі і мяды разліваюць, але, тым часам, за пазухай камень трымаюць.

Яны точаць нажы на нашу селянскую шыю.

Трэ' быць на варце!...

**М. Тумашэвіч.**

---

Прыгнетаемы расейскім царызмам і польскімі панамі ў мінуўшчыне, Ты, беларускі селянін-земляроб, ня меньш церпіш гвалту і паняверкі ад самаўпраўства акупантаў у цяперашнім часе.

З аднаго боку Цябе крыудзяць маскоўскія камісары, а з другога — польскія паны ды шляхта.

Гуртуйцеся каля селянскай сувязі, каб магутны даць адпор акупантам!

Без зямлі — Ты нявольнік, раб, як селянін, а без волі — Ты раб, як грамадзянін!

# АРГАНІЗУЙМОСЯ.

Станем к змаганьню мы з ведзьмаю-крыудай
Дружна, адважна пляча а пляча,
Рухне старое, хоць крэпкае з віду,
Яснае, вольнае створым жыцьце!

**Янка Купала.**

Польскія паны захапіўшы ў свае заграбастыя лапы заходнюю частку Беларусі,—пусьцілі ў ход ўсе спосабы, каб толькі зьнішчыць адзнакі самабытнай беларускай індывідуальнасьці, спыніць высвабадзіцельна-адраджэнскі рух беларускага народу, які імкнецца да адбудовы сваей дзержаунай незалежнасьці. На гэта яны нешкадуюць ні грошай ні часу. Утвараюць розныя камітэты „абароны крэсаў“, пасылаюць на вёскі ды на мястэчкі сваіх наймітаў, так званых „інструктароў стражы крэсовай“, склікаюць самазваныя „сэймікі“, выдаюць часопісі, агітацыйныя брашуры, лісткі, адозвы, сабіраюць „подпісы“ аб далучэньні да Польшчы, сьпекулююць амэрыканскімі падаркамі для прытулковых дзетак і г. д.

Але гэтага ім мала. Польскія паны нішчаць беларускія народныя багацьці, руйнуюць селянскую гаспадарку: забіраюць каней, кароў, нават апошнюю курачку, нават апошняе парасё, нават апошні кусок чорнага хлеба...

І гэтага ім мала. Польскія паны зачыняюць беларускія коопэратывы, беларускія народныя школы, культурна-прасьветныя ўстановы. Забараняюць ставіць беларускія сьпектаклі, — нават звычайныя вясковыя ігрышчы, уважаюць небяспечнымі для іх беспраўнага панаваньня ў нашым краі; нават вясельляці-то хрысьціны нельга справіць, каб ня быў прысутны няпрашаным госьцем польскі жандар, або шпік; нельга пяяць сваю родную песьню, бо як запяеш — заразжа прыдзе жандар і скажа, што гэта ёсьць большавіцкая песьня, — заарыштуюць цябе, паб'юць, ні за што ні пра што ў турму пасадзяць...

Аднак і гэтага ім мала. Разбэшчаныя жандары — гэныя служкі іх верныя — гвалцяць беларускіх дзяўчат, ганьбяць кабет — селянскіх жанок...

І гэтаго ім, нават, мала. Польскія паны ў захоплянай частцы Беларусі абвесьцілі маблізацыю, сілком прымушаюць беларускіх селян-земляробаў служыць у іх панскім войску. А хто ня йдзе — ловяць тых і, як у часы паншчыны, зьвязаваюць рукі і ногі жалезнымі ланцугамі, садзяць у турму, а не то без суда і сьледства разстрэліваюць...

Прагавітыя паны і гэтым не задаволілі свайго зьвярынага апэтыту, свайго нялюдзкага жаданьня крыві і сьлёз народных.

Польскія паны беларускай селянскай зямлёй, — пераважна бежанскай — надзеляюць сваіх жаўнераў...

Што, мо' ўсё гэта няпраўда?—толькі бязглуздыя ды нясумленныя людзі гэтага не бачуць!

Падумайце, кім перапоўняны турмы ды „абозы інтэрнаваных“, каго так па зьверску катуюць па дэфэнзывах? — ўсё нашага брата беларускага селяніна-земляроба, беларускага народнага вучыцеля, беларускага коопэратара, беларускага інтэлігэнта.

Нема тае хаты, нема такога сямейства дзе-б ня было сьлёз і нядолі ад самаўпраўства польскіх акупантаў.

І гэта ўсё робіцца сьвядома польскімі панамі, каб знішчыць Беларусь, каб спыніць селянскі рух, каб абярнуць нашу старонку ў пустыню голаду і сьмерці, а каб пасьля па нашых трупах ехала трыумфатарская калясьніца пераможцы Язэпа Пілсудзкага.

От-жа, — ня будзе гэтага!

Годзе прыблудаў нам розных карміць

Годзе нам ворагаў сілу вялічыць.

Годзе нам злыбядзе ўсякай паклоны дарыць.

Гаспаадары мы ў сябе, а не госьці
час к панаваньню нам сьлед церабіць! — скажамо ўсьлед за нашым песьняром.

Арганізуймося, — бо ад нашай арганізаванасьці, ад нашай сьвядомасьці залежыць ці быць нам вольнымі грамадзянамі, ці вечнымі нявольнікамі, працоўным быдлам, або „пушачным мясам“ чужаедаў польскіх паноў ды шляхты!

Гэта ня ёсьць адны толькі словы — само жыцьцё аб гэтым нам кажа. Шмат у якіх мяйсцох Беларусі, цяперака ўспыхнулі селянскія паўстаньні проці акупантаў. Ужо пралілася народная кроў — дарагая нам, братоўская кроў. Аднак сталася. Народ ня ў сілах больш цярпець гнёт чужацкіх наездцаў, а з аружжам у руках паўстае на змаганьне за свае чалавечыя правы, за волю і незалежнасьць сваей Бацькаушчыны.

Мы зьвертаемся да ўсіх лепшых сыноў Беларусі з поклічам: Вы бачыця! Ваш родны край гарыць у вагні паўстаньняў. Ліецца народная кроў. Вы бачыця, паўстаньні шырацца стыхійна. Рады змагальнікаў з кожным днём усе растуць. Неабходна прыняць усе меры, каб арганізаваць народную стыхію, паказаць ей шлях праўдзівы, каб ня было лішняга праліцьця крыві. Ідзіця і дапамажыця селянству ў яго змаганьні за лепшую долю і свабоду!

Мы заклікаем беларускую інтэлігэнцыю, што заблудзілася паміж трох соснаў розных арыентацый. Ідзіця пад страху селянскай хаты, станьце побач з селянінам, як з сваей раўнёй, дапамажыця яму падробна ўсьвядоміць, як трэба змагацца з „ведзьмаю-крыудай“, як працерабіць шлях да шчасьця і волі.

Трэба раз і назауседы прызнаць, цьвёрда сабе ўсьвядоміць: справа селянская ёсьць справа ўсей беларускай нацыі. Адраджэньне Беларусі — гэта ёсьць справа мазольных рук беларускага селянства. Толькі селянство з'яўляецца тым здаровым і творскім станам, на які цалком можа апірацца ўвесь беларускі вызвалідзіцельна - адраджэнскі рух. І той, хто ўзапраўды хоча працаваць на ніве адраджэньня вольнай і незалежнай Беларусі, той мусіць ясна і цьвёрда рашыць:

цяпер або ніколі. Далей хістацца ўжо нельга. Трэба рашыцца, неабходна выбраць сабе шлях. Даволі ламаць сабе галаў над тэй ці іншай арыентацыей, — бо праўдзівая ёсьць толькі адна арыентацыя — працоўнае селянства, абарона інтэрэсаў каторага ёсьць для нас вышэйшым абавязкам.

Час ня жджэ, неабходна зараз-жа вырашыць!

І так — або аддаць усе свае сілы і веду справе высвабаджэньня і адраджэньня селянскай Беларусі, або аткрыта стаць у рады яе ворагаў. Адно з двух, бо іншага выбара няма.

Настаў час, калі неабходна зарганізаваць усе сьвядомыя грамадзкія сілы, аб‘еднаць у адзіную згодную грамаду. Перад страхацьцём польскага імпэрыялізму, ды нацыанальнага шовінізму, які нясе для Беларусі безладзьдзе, голад, пошасьць, паняволеньне ды асіміляцыю, — трэба стаць нам „крэпасцяй сьцяною“ і на ўсе насільства ды іезуіцкія хітрасьці польскіх паноў, мы павінны адказаць эваей сьвядомай арганізаванасьцю.

Не павінна быць а ніякай асабістай палітыкі. Усё павінна рабіцца са згоды аднаго кіруючага і пастанаўляючага цэнтру. Усе актыуныя выступленьні павінны быць добра арганізаваны. Тагды пачуюць і пераканаюцца ворагі селянскай Беларусі, што проці ўсяго арганізаванага народу ваяваць нельга.

Мы сваей толькі арганізаванасьцю прымусім акупантаў пакінуць наш край Нехай нам прыкладам будзе Ірляндзія!

Дык ня трэба часу марнаваць — зараз-жа да працы!

У кожнай воласьці, у кожным павеце, у кожным мястэчку ці месьце нехай зараз-жа арганізуіцца „Селянская сувязь“, а побач „Грамада Моладзі“.

Неабходна прыцягнуць да грамадзкай працы селянскую моладзь, даць ей духоўную страву, ідэйны напрамак у яе маладым жыцьці.

Селянская моладзь — будучыны Беларусі!

А там дзе ёсьць ужо некалькі беларускіх арганізацый — неабходна утварыць аб‘еднаную арганізацыю.

У пачатку ня трэба гнацца за лікам сяброў у арганізацыі, — ляпей нехай бедзе меньш, але за тое больш пэўных і моцных духам. Даволі нават, калі будзе два тры чалавекі, бо калі ўмела справу паставіць, яны будуць мець уплыў на ўсю ваколіцу і ў належным выпадку, калі будзе дадзены покліч, селяне дружнымі радамі за імі пайдуць на змаганьне ў абарону сваіх правоў.

Кляйміце ганьбаю тых, хто прыхільна адносіцца да акупантаў!

Тлумачце ўсё гэта адсталым ды маласьвядомым!

Больш веры ў сябе, у свае сілы!

*Т. Глеба.*



# Беларуская незалежнасьць.

Пытаньне аб беларускай незалежнасьці было пастаўлена перад шырокімі коламі беларускага грамадзянства на першым Усебеларускам Кангрэсе 1917 г.

Гэта быў час поўнага разьвіцьця Вялікай Рэвалюцыі на ўсходзе Эўропы

Народы колішняй Расіі, на ўсіх кутках вольна высказывалі свае думкі, нічога не баючыся ні перад чым не застанаўляючыся. Кожны казаў так, як здавалася яму лепей, як падсказаў яму розум і сэрца. Сабраўшыся у ліку каля 2000 делегатаў, загаварыў і беларускі народ.

Як з хаосу, як з не быцьця пачала выяўляцца і фармавацца беларуская думка.

„Хай будзе сьвет!"

І пачала істнаваць, закладзеная Кангрэсам, беларуская дзержаўная справа.

І вось, праз некалькі дзён бурлівых спрэчак на Кангрэсе, з трыбуны была прапанавана рэзалюцыя... „Абвешчаецца незалежная беларуская рэспубліка і выбіраецца камісія для апрацоўкі манифесту да беларускага народу."

Вялікая большасьць кангрэсу і асабліва селянскія і салдацкія депутаты сустрэлі рэзалюцыю доўга не з моўкнымі воплескамі і крыкамі.

„Хай жыве незалежная Беларусь!"

Прызвычаіўшыйся ў сваем прыватным жыцьці гаспадарыць, беларускі селянін, знаць сваім інстынктам адчуваў, што патрэбна адбудаваць і сваё дзержаўнае незалежнае гаспадарства.

Адпаведныя-ж нацыянальныя беларускія дзеячы не адважыліся у той час, паставіць гэтак рышуча пытаньне аб беларускай дзержаунай незалежнасьці. Здавалася, што раз на усей ,калішняй Расіі апанаваў народ і свабода, то нема безпасрэднай патрэбы ў тым, каб адсэпаравацца, аддзяліцца ад агульнай сямьі вольных народаў.

Раз усе свабодны, то свабодзен і беларускі народ. А раз народ свабодзен, значыць не павінна быць нікога, хто-б перашкаджаў народу ў яго свабодным разьвіцьці, руйнаваў яго добрабыт, эксплуатаваў яго справу.

Прынята рэзалюцыя у якой абвешчалася Беларуская народная рэспубліка, выбіраўся выканаўчы орган, якому кангрэс перэдаў сваю ўладу і было пастаноўлена паслаць делегацыю на Брэст-Літоускія перэгаворы з Немцамі.

Далейшая гісторыя беларускай справы сведчыць аб тым, што інстыктыўнае пачуцьце гаспадара-селяніна было правідловае.

Делегацыю Беларускай Народнай Рэспублікі, бальшэвікі на перэгаворы у Брэст не дапусьцілі і нават значную частку беларускіх зямель аддалі ў распараджэньне немцаў.

Гэткія палітычныя абставіны прымусілі беларускіх старых дзеячоў 25 сакавіка

1918 году на спецыяльным паседжаньні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, самім паставіць і прыняць прапанованную на кангрэсе, беларускім селянствам, прапазыцыю аб незалежнасьці Беларускай Рэспублікі, на якую яны раней не згаджаліся.

Для ўсіх стала ясна, што ня можна дазваляць чужынцам па свайму гаспадарыць у нас на Бацькаўшчыне і ня можна дазваляць ім распарджацца нашым нацыанальным дабром.

Рада Рэспублікі, абвесціўшы маніфест аб незалежнасьці Б. Н. Р. заявіла, што не вызнае Брэст-Літоўскі мір, зробленны праз галаву беларускага народу, і аддаўшый бяз згоды гаспадара Беларусі значную частку беларускіх зямель у распараджэньне немцаў.

Брэст-Літоўскі мір згінуў, але гэта не перэшкаджала бальшэвікам-маскоўцам, прысвоіўшым сабе неналежнае ім права, яшчэ не адзін раз рабіць умовы за кошт беларускага народу.

Зневажаючы беларускі народ, яны чынялі яму відавачную шкоду і насільства. Асабліва гэта павінна сказаць пра Рыжскі, Расейска-Польскі мір, па якому расейцы амаль што палову Беларусі аддалі на зьдек польскім панам, столькі сама ўзялі сабе, а рэшта — шэсьць паветаў Менскай губерні аддалі пад утварэньне па іх рацэпту, Савэцкай Беларусі.

Бальшавікі нарыхтоўваюць вялікія пляны, яны ня толькі жадаюць таго, каб увесь сьвет ведаў і гутарыў аб іх, яны дабіваюцца, каб у ваўсім сьвеці запанаваў такі лад, які па іх думцы, зьяўлецца найлепшы.

Але ці можам мы браць пад увагу іх думкі, калі яны ўзяўшы с аружжам вырашаць беларускую справу і зневажыўшы беларускі народ, аддалі, амаль што, палову нашай зямелькі ў распараджэньне самага горшага для селянства ў сьвеці ўраду—шляхэцкай Польшчы.

Не, такіх парадкаў нам ня трэба. Няўжо-ж бальшэвіцкая дапамога беларусам патрэбна была на тоя, каб беларускі селянін яшчэ раз даведаўся „панскай ласкі“, разам з бізунамі, турмамі і інш.

І калі бальшавікі прагадалі, калі ў іх не хапіла моцы, каб зкінуць шляхэцкае панаваньне ў Польшчы—калі яны прымушаны былі аддаць палову Беларусі Польшчы,—то хіба-ж так павінны яны былі зрабіць з Усходняй Беларусьсю?— Хіба-ж такую падзяку зарабіў беларускі народ за сваё надзвычайнае цярпеньне?

Не—відаць (як кажыць прыказка) бальшавікі „дзякуючы лесу не бачуць дрэваў“,—з за сваіх усесьветных спрыяў не бачуць нядолі беларускага народу і нават не парупіліся аб тым, каб на ўсім

**Ты быў і назаўсёды застанешся нявольнікам, рабом, аж пакуль твая родная айчызна Беларусь ня будзе вольнай і незалежнай дзержавай!**

адышоушым да іх па „Рыжскаму міру“ абшары, заселенным беларусамі абвесьціць беларускую рэспуліку. Добра мець абвешчаючых горы рожнага дабра, але шмат ляпей самаму здабываць права на жыцьцё і лепшую будычыну.

Палякі так сама дамагаліся злучэньня Беларусі з Польшчай. У гэтай справе яны нагаварылі столькі пекных слоў, столькі надавалі ласых абецанак, што калі-б усе іх словы запісаць на паперу, ды ўскласьці гэтую паперу на воз, то адзін-бы конь не павёз. А запраўды хіба-ж можна што нібудзь горшае прыдумаць, чаго тольхі-б не выконывала над беларускім народом разбэшчаная польская шляхта.

Здаецца што і розум дан ей тольκі на тоя, каб гвалціць і займацца ашуканствам беларускага селянства. Знаць у імя вольнасьці палякі перапоўнілі ўсе турмы беларускімі вучыцелямі, селянамі і нашымі палітычнымі працаўнікамі. А калі-б нават на тым сьвеці дзе небудзь беларускаму селяніну давялося быць разам і ўроўні з польскім панам, то здаецца і там-бы ён загарланіў—„не пазвалям!“

Толькі ў панскай галаве могуць зарадзіцца такія дурысьветныя ганебныя думкі, каб зямельку беларускіх бежанцаў прыбраць да панскіх лап і польскіх вайсковых каланістаў.

Не, гэтакіх апекуноў ліхадумцау нам не патрэбна. Над нашай селянскай нядоляй яны поцешаюцца,—нашым голодам яны тлусьцеюць,—нашай працай яны будуюць сабе палацы, а нам ланцугі.

Зараз у ваусім сьвеці пачынаюць узмацоўвацца іншыя думкі,—думкі аб самаажачэньні народаў. Самаазначэньне народаў, гэта значыць, што кожны народ у межах сваей лічэбнай перавагі мае права завадзіць у сябе такі лад, які яму найбольш патрэбен, і дружыцца, або аб'еднацца з такімі суседзямі з якімі ён сам пажадае, і хто з ім пажадае дружыцца.

Вось нам усім, станоўча трэба дамагацца таго, каб такое правіла было прызнана ўсімі за нашым народам. Усе беларусы, нягледзючы на тоя, хто якой веры і хто чаму спачуаве, павінны выразна зазначыць кожнаму, што мы ёсьць беларусы і жадаем па свайму сумленьню гаспадарыць у сябе на бацькаўшчыне.

Гэта павінна быць нашым першым чарговым заданьнем.

Уся людзкасьць жадяе міру і ўсе пераканаліся ў тым, што сталы мір можа запанаваць толькі тады, калі кожны народ сам будзе знаць аб сваіх патрэбах.

Гэта права вельмі важна для нас. Усе селяне павінны зразумець яго і адчуўшы, уселякім чынам дамагацца, каб і наша бацькаўшчына карысталася гэтым

**Бараніце перад акупантамі свае дабро, — каб ня былі жабракамі! —**

правам. Калі ўсе, зарганізаванай грамадой галосна зазначым, што мы беларусы самі жадаем гаспадарыць у сваім краі і будзем рашуча змагацца за свае правы, то чужынцы ня здалеюць доўга трымацца, верхаводзіць і баламуціць на нашай зямельцы бо па сучасным законам яны ніякога права на гэта не маюць, а трымаюцца толькі насільствам.

Але насільствам доўга не пратрымаешся.

Правідловае дамаганьне беларускага народу родзіць спачуцьцё і дапамогу ўсіх тых, хто дамагаецца, каб на зямлі запанавала справедлівасьць.

А такіх немала і з кожным часам лік іх павялічываецца.

Вось браты, ў першую чаргу мы павінны зьдейсьніць сваё права на самаазначэньне. А як зьнікніць з нашай зямлі панаваньне чужынцаў, тады ўсе іншыя заданьні і нашы патрэбы можна асягнуць куды лягчэй. Тады на нашай зямельцы запануе такі лад, які найбольш падабаецца і адпаведае сумленьню і патрэбам нашага селянства.

І толькі тады, калі мы даб'ёмся сваей незалежнасьці, можна будзе паважна гутарыць з нашымі суседзьмі аб тым, хто і на якіх варунках жадаець падружыцца з намі.

Беларус адвеку быў верным у сваей дружбе і шчыра выкановываў азятыя на сябя абавязкі. Гэта ведама нашым суседзям і нам не адмовяць у дружбе тыя, хто даўгі час дзяліў і радасьці і нядолю з намі, хто так, як і мы дабіваецца вольнага справядлівага жыцьця, і жадае карыстацца сваей творчай працай. Наша бацькаўшчына Беларусь. Будзем-жа памятаць, што усе селяне, ці то каталікі, ці то праваслаўныя, усе ёсьць беларусы.

Шчасьця і дабрабыт нашага селянства можна забезпечыць толькі тады, калі мы будзем самі гаспадарыць на бацькаўшчыне. Будзем-жа змагацца, змагацца за найсьвяцейшае права, права на самаазначэньне. Годзі чужынцам верхаводзіць і зьдзекацца над намі. Будзем дабівацца сваей дзяржаўнай незалежнасьці. За тым пашукаем пэўных спачуваючых нам і ўзаемна патрэбных саюзнікаў. Беларускае селянства сказало паважнае слова аб незалежнасьці і далей мы павінны нясьці яго на сваіх штандарах, пакуль не даб'ёмся сваіх чэлавечых правоў.

**Ал. Галаўня.**

Помні, што казалі, яшчэ ў дзіветнаццатым сталецьці пачынальнікі беларускага высвабадзіцельнаадраджэнскага руху.

Кастусь Каліноўскі вось што казаў:

Кожны народ мае права сам сабою распараджацца!

Усю зямлю перадаць селянству!

Няма шляхты — ўсе роўныя!

А Пранцісь Бурачок-Багушэвіч дык вось што казаў:

Не забывайце роднай мовы, каб не памёрлі!

# Хто мае права на зямлю?

Ясна — мы скажамо — права на зямлю мае той, хто сам на ей працуе, хто сам гарэ ды барануе, хто палівае сваім потам. Іншых правоў на зямлю быць ня можа, як толькі права працы — хто сам працуе, той і правы мае.

От, што мы кажымо ў гэтай справе. Што, мо не зусім зразумела?

Мо' ёсьць якія небудзь пытаньні? Дык слухайце, уважліва слухайце, што далей мы кажамо.

Глянце селяне, што дзеіцца наўвокала вас, прыглядзіцеся, як жывуць вашы суседзі, як жывіцё вы самі; паслухайце, што кажуць вашы дзяды аб мінулых часах, аб часах паншчыны — кепска жылося, дый цяпер ня лепш жывецца нашаму брату гарапашніку селяніну. Цёмны селянін-земляроб і галодны, не мае ніколі ў сваім гаротным жыцьці а ні хвілінкі супакою, не мае радасьці, ня ведае шчасьця.

Была паншчына, служылі нашы дзяды прыгон, былі працоўным быдлам абшарнікаў-паноў. Нават і за людзей ня лічылі нашага брата, горш як з быдлам абыходзіліся. Усё жыцьцё селяніна залежала ад самадура пана ды бязглуздае шляты.

Альбо-ж цяперака інакш?... — усё тая-ж паншчына, той самы прыгон!

Жыве ў цяжкай нядолі наш брат селянін... мае невялікую палоску зямлі, так што і курчанё няма куды выпусьціць, а не то што пражыць з сямействам, а тут яшчэ безупынныя рыквізыцыі, паборы, розныя павіннасьці адбывай і ўсё без услеякай платы, усё дарма прымушаюць рабіць, а заікнешся, уступішся, часамі, за сваё дабро — пабьюць, а не то і ў турму, або лагер сашлюць.

А гляньце ў іншы бок. Багаты панскі двор. Пекна пабудаваны палац. Вялізарны сад, стаў, там розныя птушкі пяюць, а колькі там ёсьць розных кветак, колькі рыбы ў тым ставе — ўсё гэта для панскае ўцехі. Сытаму, разгультаенаму пану патрэбна разрыўка, трэба хоць чым небудзь заняцца. Працаваць-жа ён ня хоча. Ён другіх прымушае працаваць на сябе. От, ён для сваей уцехі і адпускае вялізарныя абшары зямлі пад паляваньне.

Наймае лясьнікоў, каб тыя нікога ня пускалі туды. Запрашае да сябе такіх-жа гультаёў абібокаў і выдае вялікі баль.

Пьюць, балююць, а пасьля едуць на паляваньне. Там йзноў пьюць ды балююць, прыехаўшы ў двор йзноў пьюць ды балююць, і так бяз канца меры. А пасьля забірае пан усе грошы, атрыманыя ад прадажы рознага збожжа і едзе сабе ў Варшаву ці ў Парыж і там у пьянстве ды распусьце праводзіць дні і ночы.

Скажыця, будзьце ласкавы, ці ёсьць тут справядлівасьць? Селянін працуе на сваей палосцы. Не хапае яму на пра-

жыцьце ён ідзе ў парабкі на панскі двор. Там ён працуе, от нібы нявольнік — пан вельмі жорстка вызыскоўвае працу селяніна. За сваю працу селянін атрымлівае толькі на пражыцьцё і то з трудом, а пан атрымлівае ўсё.

Селянін працуе і атрымлівае меньш, а пан не працуе і атрымлівае больш. Селянін, скажамо, атрымлівае за сваю працу, але за што атрымлівае большую частку пан? Ён-жа сам не працуе, то чаму ён мае такое права па свайму распараджацца чужымі рукамі запрацаваным дабром?

Хто яму даў генаэ права?

Як бачымо, аб справядлівасці тут і ўспаміну няма. Няма тут а ніякага і права. Пан ня мае права па свайму распараджацца дабром, якое не яму належыць.

Кажуць зямля пану досталася ў спадчыне. Яго продкі купілі там ці што, а мо' падараваў хто небудзь. Адным словам, пан атрымаў вялізарныя абшары зямлі ў спадчыне, ён знаць нічога не знае і ведаць нічога ня хоча.

Але мы на гэта вось што кажамо: зямля, як і паветра калісь была нічыя. Быў час, калі мала было ахвотнікаў працаваць ля зямлі. Найбольш займаліся тагды людзі скатаводствам, пчалаводствам, рыбалоўствам, а каб працаваць ля зямлі, тагда людзі гэтага яшчэ ня ведалі, не займаліся земляробствам.

Але з часам, калі павялічывалася людзкасьць і ўсё трудней станавілася пражыць, скажамо, з пчалаводства, ці скатаводства, людзі пачалі займацца на к..ку земляробствам.

З таго часу, як чалавек пачау займацца земляробствам, ён перастаў быць качэўнікам. Будаваў сабе хату, абзавадзіўся жывёлай і сельскагаспадарскімі прыладамі. Па сваей сьмерці ён перадаваў узараны вучастак зямлі сваім патомкам. Тыя, або павалічывалі абшар зямлі сваіх продкаў, або карысталіся толькі тым, што ім засталося ў спадчыне, а не то пераходзілі на другое, больш ураджайнае мейсца: палілі лес, выкарчовывалі, засявалі ды з гэтага і жылі. Зямлёй тады карыстаўся толькі той, хто сам на ей працаваў.

А калі часамі здараліся якія небудзь спрэчкі паміж людзьмі, то сабіраліся на валаснoе веча і там усе гэтыя спрэчкі ды непаразуменьні паміж людзьмі палюбоўна рашалі.

І ўсё тагды было добра і паноў ніякіх ня было.

Аднак, часы меняюцца. Жыцьцё ні стаіць на адным мейсцы. Зьмяніліся і тыя часы. Утварыўся новы стан людскога грамадзянства, які захапіў, паступова, ўсё палітычнае і гаспадарскае жыцьцё ў всае рукі. Валаснoе веча было скасавана. Земляробы пазбаўлены былі сваіх правоў, а прымушаны былі разам з зямлёй належыць гэнаму вышэйшаму стану баяраў ды князёў — гэта-шляхце ды панам. Настаў час паншчыны. Самы ганебны час у гісторыі ўсей людзкасьці. Селяніна, як нейкую рэч: прадавалі, на сабак мянялі, у карты праігравалі...

А йзноу такі часы меняюцца. Паншчына была скасавана. Селяніна асвабадзілі з пад панскае апекі, селянін пачуў сябе вальнейшымъ крыху чалавекамъ.

Надзялілі селян зямлёй, аблажылі падаткамі, мала ў чым зьмяніла жыцьцё селяніна. Якая можа быць у селяніна воля, калі няма зямлі?

Селянін без зямлі ўсё роўна, што рыба без вады—ніякога жычьця табе няма. А пакуль панъ будзе ўладаць вялікімі абшарамі зямлі, пакуль ён будзе па свайму распараджацца дабром запрацаваным селянскім крывавым мазолём—ня будзе мець долі наш брат селянін, заўсёды будзе безпраўным батраком.

Паншчына яшчэ не скасавана. Наша зямелька церпіць у чэпкіх лапах польскіх паноў. Трэба высвабадзіць яе!

Толька тады, мы, селяне-земляробы, будзем вольныя, калі вольнай будзе наша родная зямелька, палітая нашым потам, калі ўсе лясы і сенажаці, калі ўсе рэкі і вазёры будуць высвабаджаны з ланцугоў панскай уласнасьці.

Мы ведаем, што чужаед польскі пан аж да апошняга будзе ўпірацца, будзе наватъ дзяліць нашу беларускую селянскую зямлю паміж сваімі верными служкамі, будзе ўсімі способамі старацца нас ашукаць, але нічога: круці паночку, ня круці, а прыдзецца такі памёрці, як кажа прыказка.

Раз пан не мае права на зямлю, знача і не павінен уладаць гэтакімі вялізарнымі абшарамі.

А права маем мы, беларускія селяне-земляробы, знача ўся зямля павінна нам і належыць.

У гэтым ёсьць нашая праўда і нашая сіла!

**Т--ш.**



# КООПЭРАТЫЎНАЯ СПРАВА.

На абшарах нашай Бацькаўшчыны, захопленых польскай лапчывай шляхтай, коопэратыўны рух, амаль што, толькі пачынаў наладжывацца і ўзмацовывацца. Трэ, сказаць, што шмат высілкаў у гэтую справу даклалі рожныя прэдстаўнікі беларускага адраджэньня.

Селянства так сама не засталося глуха к прызыву сваіх сьвядомых сыноў і хутка пачало па рожных мясьтэчках і вёсках завадзіць свае коопэратыўныя крамы.

На жаль, пашырэньню гэтай справы рабіліся рожныя перашкоды тым ненар-

ЗАПОМНІ ГЭТА: Каб дабіцца ўцесьвяшчаньня тваіх правоў — неабходна, каб ты ў змаганьні ня быў адзінокі, а каб сваю асабістую волю ты аб'еднаў з воляй усяго працоўнага народу Беларусі!

мальным станам у якім апыніліся і ўвесь час знаходзіцца Беларусь. Пад час расейска—польскай вайны, шмат тавараў з коопэратыўных крамаў было рэквізавана і, дзякуючы чаму,нашы коопэратывы панясьлі вялікія страты. Німа ведама калі за гэтыя тавары коопэратывы здалеюць атрымаць грошы, але ўсё-ж такі глаўная крыўда нашых коопэратываў ў гэтым.

Палякі надаўміліся рабіць і другія перашкоды беларускаму коопэратыўнаму руху. Пачалі забараняць інструктарам па коопэратыўным справам езьдіць па вёсках і даваць інструкцыі, як лепі нарыхтаваць коопэратыўную гаспадарку.

Пачалі вымагаць, каб кнігаводства ў беларускіх коопэратывах вялося у польскай мове.

Пачалі не выдаваць беларускім коопэратывам на продаж рожныя ўзятыя на ўчот (монополізованыя польскай уладай) тавары.

І ўрэшці пачалі зусім зачыняць беларускія коопэратывы.

Як і заўсёды, першая „панская ласка“ выпала на Горадзеншчыну.—

У траўні па распараджэньню польскага губэрніальнага старасты адразу былі зачынены ўсе Беларускія коопэратывы Горадзеншчыны.

Чаму так робяць польскія сатрапы? А таму, што коопэратыў зьяўляецца пачатковай арганізацыей селянскіх мас. Кожнаму відавочна карысьць коопэратываў. Коопэратывы праз свае саюзы закупляюць адразу шмат тавару,—а значыць зручней і таней яго купіць, і купляюць яго безпасрэдна ад фабрыкі, або ад кампаньняў (соль).

І купіць і прыставіць тавар абходзіцца таней, калі справа робіцца оптам—цэлымі вагонамі.

Так сама кожны селянін здалее больш выгадна прадаць свой тавар, калі будзе прадаваць не адзін, а грамадой праз коопэратывы,-або коопэратывы маючы для прадажы шмат селянскага тавару здалеюць яго прадаць, або ў вялікім орадзе, або на фабрыкі, або нават прадаць заграніцу, прадаць там гдзе селянскі тавар больш патрэбен і дзе за яго даражэй дадуць.

А раз коопэратыў сам прадасьць даражэй, то і селянам здалее даражэй заплаціць.

Праўда, коопэратыў, як і ўселякая гандлёвая ўстанова, або прыватны купец накладаець працэнт на выдаткі, на перапрадажу, на ўплату за памешканьне, на ўплату працаўнікам .... але гэты працэнт коопэратыў бярэ куды мені, чым прыватны гандляр і ўрэшці селяне, праз рэвізыйную камісію заўсёды здалеюць праверыць і патрабаваць ад свайго праўленьня, каб больш выгадна для селян правадзіўся гандэль.

Але галоўнае, на што трэба зьвярнуць увагу—барыш, які застаецца ў коопэратыве ідзець не па прыватным кішэням, а пушчаецца ў абарот для паляпшэньня становішча селян, маючых да коопэратыву дачыненьне.

Коопэратыў на застаўшыяся ў яго грошы здалее купіць для агульнага селянскага карыстаньня: машыны, калі вышадае ко-

опэратыў можа закласьці свой селянскі завод.

У іншых дзержавах (дыі ў былой Расеі: ў Сыбіры і на Ўкраіне) коопэратывы маюць свае вялікія заводы.

На гэтыя заводы селяне цэлай волась ці могуць дастаўляць свае прадукты для перэработкі. Гэтым палепшаецца становішча селянскай гаспадаркі, бо завод можа даражэй плаціць селянам за прадукты і самі селяне здалеюць даставіць магчымасьць некалькі дзесяткаў жыхароў зарабіць на заводзе і ў той самы час заставацца каля сям'і.

Калі коопэратыў добра вядзе справу і іншыя коопэратыўныя арганізацыі пераканаюцца ў гэтым, то такому коопэратыву атпушчаюць у крэдыт ня толькі тавары, але і машыны, тады коопэратыў зусім лёгка зможа збудаваць свой завод.

Але гэта ня ўсё. Коопэратыў, маючы грошы, здалее пасабляць селянам у справе асьветы. Здольным селянскім дзецям коопэратывы пасабляюць атрымаць адукацыю, плацяць за іх грошы за навучаньня.

Наш Віленскі саюз коопэратываў шмат даклаў высілкаў да таго, каб адчыніць беларускую гімназію ў Будславе, збудаваў памешканьне і даў магчымасьць некалькі сот селянскім дзецам вучыцца.

Гэта гімназія зробленая стараньнем беларусаў, была польскім панам бяльмо на воку, і яны захапіўшы нашу старонку ў першую чаргу пастараліся зьнішчыць нашу беларускую гімназію.

А самая важная карысьць селянству ад коопэратываў у тым, што селяне прывыкаюць у коопэратывах да грамадзкай працы, прывыкаюць грамадой бараніць свае інтэрэсы і правы. Пачаўшы ад спажывецкага коопэратыва, селяне здалеюць завясьці і іншыя арганізацыі, палепшаючыя агульнае становішча селянства. За коопэратывамі ідуць крэдытныя селянскія супалкі, якія ў выпадку патрэбы, пазычаюць патрабуючым таго грошы. Затым ідуць рожныя арцелі — коллектывы, калі гурток працаўнікоў закладае якую небудзь майстэрню і праводзяць сваю працу арцельлю, пашыраіць у краю рэмёсла.

Прывыкшы пасабляць адзін аднаму ў гаспадарстві, селяне здалеюць прывучыцца грамадой узмацовываць свае правы,-прывыкнуць як арганізовываць патаемныя селянскія саюзы для барацьбы супроць паноў абшарнікаў.

Так пачаўшы з малога ад коопэратываў можна дайсьці да вялікага да арганізаванага змаганьня грамадой за селянскія правы.

У той час, як завадзкія працаўнік маюць свае профэсыанальныя саюзы. У Англіі некатарыя з гэтых саюзаў налічываюць па некалькі мільёнаў сяброў.

З такім саюзам нават англіцкія капіталісты нічога зрабіць ня здалеюць. У профэсыанальным саюзе ўсе грамадзяне стаяць за кожнага.

Саюзы не дазваляюць буржую бяз прычыны прагнаць з завода працаўніка,- не дазваляюць збаўляць плату...

А ў нас у селянстве німа ніякіх арганізацый, а дзеля гэтага пан езьдзіць і верхаводзіць селянамі як яму падабаецца.

Коопэратыў ёсьць першая важная для селянства арганізацыя.

У коопэратыве селянін атрымае ня толькі тавар, а і газэту, і патрэбную кніжку,-коопэратыў затым навучыць селяніна як наладзіць сваё становішча, як дахадзіць селянам сваіх правоў.

Коопэратыў усё гэта робіць лагодна, паступова. Калі-ж паны сілком зачыняюць нашы селянскія коопэратывы, то гэта значыць, што паны задумываюць штосьці нядобрае. На панскае насільства трэба мець магчымасьць атказаць насільствам, трэба утварыць такія арганізацыі, якія маглі-б актыўна змагацца за селянскія правы.

Калі паны забараняюць адчыняць коопэратывы, то трэба найхутчэй утварыць патаемныя селянскія саюзы.

Трэба ў дружнай грамадой і паноў і іх прыслугачоў — наймітаў добра трухнуць за кіршэнь.

Вось чаму паны і зачыняюць селянскія коопэратывы. Паны баяцца селянскай арганізацыі. Пан добра ведае, што кожнага па асобку селяніна можна скруціць як заўгодна. Калі-ж селяне будуць зарганізаваны, то так проста ў рукі не дадуцца. Калі грамадой, усей вёскай, усім паветм, усею губэрняю селяне будуць стаяць адзін за аднаго, то паны пабаяцца крыўдзіць селянство.

Няверце нікому, хто робіць перашкоды ў селянскай арганізацыі.

Каб дурманіць селян, паны прыдумліваюць рожныя штукі.

У нас яны рыхтуюцца сварыць паміж сабой селян праваслаўных з селянамі каталікамі.

Браты, хіба ня ўсё адно нам, хто з нас здымае скуру — каталік ці праваслаўны? Хіба-ж пан, каторы, як той клешч, трымае ў сваіх руках вялізарныя абшары зямлі, ды рыхтуецца, каб і селянскую зямлю — зямлю нашых бежанцаў аддаць каланістам, хіба-ж гэты пан не аднальковы вораг і селян праваслаўных і селян каталікоў?

Не паддавайцеся, браты, рожным хітрасьцям, якімі паны рыхтуюцца аплутаць і марочыць нас.

Ня слухайця ні паноў, ні ксяндзоў, якія хочуць сварыць селян паміж сабою.

Селянская доля ўсіх роўна і каталікоў і праваслаўных. Удасца скінуць паноў, усім будзе лепш.

Браты, зорка даглядайце за панамі, пільнуйце за тым, каб яны, як даўней, не абярнулі усіх і праваслаўных і каталікоў у сваё быдло.

Ведайце, што селянская моц не паасобку, а ў грамадзе.

Арганізуйцеся пачынаючы ад коопэратываў і канчаючы патаёмнымі селянскімі супалкамі. Пасабляйце грамадою кожнаму супраць панскага засільля.

Толькі грамадой можам уратавацца ад панскага ярма.

Толькі згодай паміж сабою і агульным, арганізованным змаганьнем супроць нашых ворагаў — насільнікаў над працоўным народам, здалеем здабыць сабе вольную Бацькаўшчыну і права на вольнае жыцьцё і дабрабыт працоўных мас.

**Пуцято.**

---



# СУЧАСНЫЯ ДУМКИ.



З пад руін самадзержаўнай царскай Расіі паўстала Беларусь да новага, вольнага жыцьця. Беларусь уваскросла, адрадзіўая народ. І ніякімі ланцугамі нельга скаваць ужо вольнаго ўзлёту духа, паўстаўшай на змаганьне за сваю дзержаўную незалежнасьць, беларускай народнай стыхіі.

Народ мучанік, народ пакрыўджаны, ўсімі пагарджаны, народ падняволяны, народ засуджаны на немінучую асіміляцыю ды сьмерць, народ перажыўшы гнёт польскай паншчыны, перанёсшы самаўпраўства маскоўскага царска-жандарскага ражыму,—цяпер гэты народ паўстаў з нябыцьця і на скрыжалях усесьветнай гісторыі вогністымі літэрамі запісывае сваё імя.

Але сумна і больна становіцца на душы, як уважліва азірнешся наўвокала сябе. Колькі ўсюды маны і ашуканства, розных інтрыг.... А насам перад, усюды пануе грубая сіла штыка і кулямёта прыкрытая пекнымі сьвятымі словамі аб праве народаў на самаазначэньне аж да аддзяленьня, аб роўнасьці і вольнасьці і г. д.

Беларусь з канца ў канец праходзілі чужацкія наезднікі-акупанты. Усе яны шмат давалі розных абецанак. Але... нічагусенькі не спаўнялі з таго што абецалі. Адно толькі—грабавалі, руйнавалі наш край, нішчылі багацьці народныя, зьдзекаваліся над селянскай душой.

Аўжо-ж, за вялікімі лёзунгамі, за пекнымі словамі хавалася агідная пачвара грабежства, насільства, забойства, барыша......

А найбольш ад гэтага церпіць наш брат селянін „сын касы і сярпа“, бо ўвесь ціжар акупацыі лажыцца на нашы працоўныя плечы. Ад агульнага безладзьдзя руйнуіцца селянская гаспадарка —ад розных рыквізыцый ды пабораў, натуральных ды іншых павіннасьцяў якія накладаюць на селян акупанты, селянін не мае прасьветнай гадзіны.... Проста рукі самі апускаюцца, калі не маеш пэўнасьці ў заутрашнім дні. Што будзе заутра? Якую новую павіннасьць наложаць на нас акупанты? І селянін з жахам угледаецца на заўтрашні дзень. Ён становіцца сумным, задумчывым, без пары старым. Шмат розных думак родзіцца ў яго галаве, часамі адважныя думкі і селянін гатоў ісьці на подвіг, на вялікі подвіг і нават на самаахвяру,—а часамі абхоплівае яго безнадзейнасьць, туга аб шчасьці, аб вольным жыцьці.

„Эх, ты доля мая, шчасьце маё,—

„Дзе-ж ты вадою заплыла....“—з роспаччу часамі вырываецца з грудзей селяніна.

Але усё-ж такі, каб здабыць сабе лепшую долю, селянін ужо ведае, што трэба рабіць, наш цёмны прыгнецяны сермяжны селянін ужо добра сабе усь

вядоміў, што адзіны ёсьць толькі шлях к сьветлай будучыне-арганізаванае вясьці змаганьне за палітычную ўладу, за незалежную беларускую дзержаўнасьць. Селянін актыўна ўжо пачынае змагацца з чужацкімі наезднікамі-акупантамі. Да гэтага змушае яго само жыцьцё.

Прагнаць чужынца з сваей хаты — гэта ёсьць чарговае заданьне нашага селяніна-земляроба.

З гэтага часу беларускі высвабадзіцельна адраджэнскі незалежніцкі рух, становіцца рухам селянскім. Ідзе змаганьне ня толькі за нацыанальна-палітычнае і культурнае, а і за соцыальнае высвабаджэньне. У гэтым ёсьць аснаўны грунт і моц усей беларускай спарвы. Селянін цяперака ведае і безпасрэдна адчувае, што справа беларуская ёсьць яго ўласная справа — за гэта ён моцна стаіць і як мага змагаіцца.

* * *

Шляхоцка — паланафільствующая беларуская інтэлігэнцыя часам нам кажа „трэ нам згадзіцца на аўтаномію ў межах польскай дзержаўнасьці, бо ўсё роўна сваей, беларускай дзержаўнасьці, мы не збудуем. У нас няма сіл культурных.. Няма інтэлігэнцыі. Хто будзе будоваць незалежную бедарускую рэспувліку?“

Ведама, гэткія разважаньні не з пачуцьця сваей сілы, а з пачуцьця слабасьці.

Аднак, неабходна паставіць адно пытаньне: ці ўзапрауды рух беларускі такі ўжо слабы, што аб самаістым дзержаўным будаўніцтве ў сучасных варунках ня можа быць і рэчы?

От-жа, насам перад трэба ясна сабе ўсьвядоміць, што дзеіцца на ўсходзе Эўропы. Мы бачым, што турма народаў „Расійская Імперыя“ разваліласяя. Ідзе фармаваньне новых дзержаўных арганізмаў. Як даўгі ці кароткі будзе прадаўжацца гэны працэс, ніхто ня ведае. Адно толькі ясна, што не адзін раз яшчэ будзе рабіцца патуга „возсозданія единой і неделімой“, але ўсе гэныя патугі будуць безнадзейны.

Ад унутранных і надворных супярэчнасьцяў, ня будзе там згоды і супакою праз даўгі яшчэ час. З агульнага хаосу і безладзьдзя родзіцца новае маладое жыцьцё. З крывавага кашмару і пажарышчаў паўстане Вольная Беларусь.

Прыдзе час, калі за ўсе свае цярпеньні і мукі беларускі народ атрымае награду. Праб‘е чяс рэалізацыі праўды і волі,-БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ РЭСПУБЛІКАЙ. І чым больш цяперака будзе праяўлена актыўнасьці і арганізаваннасьці, тым хутчэй і з меньшай затратай сіл будуць праведзяны ў жыцьцё справядлівыя нормы адносін паміж уноў паўстаўшымі дзержавамі.

І так, надворныя варункі складаюцца на карысьць незалежнасьці Беларусі і з гэтага аснаўнога грунту ні ў якім разе схадзіць нельга. Бо зыйсьці з гэтага грунту, гэта азначала-б падпісаць сьмертны прыгавар усей беларускай справе.

Само сабой, калі мы кажым аб незалежнай беларускай дзержаўнасьці, мы павінны ясна сабе ўсьвядоміць, які стан зможа вынясьці на сваіх плячах дзержаўнага будаўніцтва Беларусі. Гэтым ста-

нам безумоўна з'яўляіцца працоўнае селянство, якое складае 90% усіх жыхароў Беларўсі.

Незалежную беларускую рэспубліку будзе, такім чынам, будаваць сам народ-беларускае селянство і тыя культувныя сілы, што выйшлі з селянскае хаты.

Казаць аб тым, што ў нас няма інтэлігэнцыі, гэта паўтараць толькі тое што кажуць ворагі беларушчыны. Найбольш аб гэтым цяперака кажуць польскія акупанты. І гэта зусім зразумела. Ня ў іх карысьці каб шмат было беларускіх культурных сіл. А тыя што ёсьць, яны стараюцца задушыць іх, замучыць па турмах ды „абозах інтэрнаваных“.

Кажучы аб тым, што ў беларусаў няма інтэлігэнцыі, польскія акупанты маюць на ўвазе зусім што іншае,—яны хочуць увесь беларускі вызвабадзіцельна-адраджэнскі рух азяць пад сваю апеку, пад сваё „галоўна камандаваньне“. Яны проста нават кажуць: адкажыцеся ад вашай беларускай дзержаунасьці і мы вам дамо свабодна развіваць вашу нацыянальную культуру, дапаможамо збудоваць вам школы і г. д.

І вось, у радах дробня-мешчанскай адсталай, шляхэцка-паланафільствуюшчай „сьвядомай“ беларускай інтэлігэнцыі, пачынаіцца хістаньне. Пачынаюць трубіць аб тым, што ў нас няма інтэлігэнцыі, ў нас няма сіл, мы ня можам збудаваць сваей дзержаунасьці. Бачьце, паны нам пазваляюць мець школы свае! — Якая духоўная мізэрнасьць, якая няпэўнасьць у сілы свае!

Не, „пахалопску б'ючы пану чалом“ ня будзем мець і школы беларускай. У гэтым здаецца пара ўжо пераканацца, пара ўжо гэта зразумець.

Сёньнека пан прыхільна адносіцца, а заўтра гумар сапсаваўся і ўсё пайшло па новаму. Трэба, нарэшці, ведаць лекамыслёную і даволі бязглуздую, склонную к авантурызму, натуру польскага пана і з гэтага выходзячы, будаваць тыя або іншыя адносіны з ім.

Нам-жа беларусам трэ'біць польскага пана ў самае слабае мейсца, ўсімі сіламі трэба нам біць у яго грудзі, каб ён пачуў нашу моц, а тады ён пачне намі рахавацца, пачне інакш абыходзіцца пачне зусім інакш тагды ён з намі гутарыць. А будзеш кланяцца, ён каркам да цябе паверніцца.

Каб мець нам вольнае права разьвіваць сваю нацыянальную культуру, мы павінны змагацца за сваю нацыянальную дзержаунасьць, са незалежнасьць сваей бацькаушчыны.

Усеялякія кампрамісы з акупантамі не ўскараюць, а затрымоўваюць рост беларускай нацыанальнай сьвядомасьці, губяць беларускую справу!

**Добра запомні і ўсвядомі сабе:**
**бяз волі нацыанальнай ня прыдзе воля і соцыальная.**

Няхай-жа, нарэшці, ўсім беларусам стане ясным што толькі ў актыўным змаганьні родзяцца новыя сілы, ўзмацоўваюцца рады, расьце салідарнасьць і вера ў пабеду.

І няхай сёньнека нас сьвядомых змагальнікаў не так многа, няхай удзельная вага наша ўсё яшчэ малая, але за тое за намі будучына. Няў ліку сіла, а ў праваце справы!

І пройдзе невялікі час, калі мы ўласна загаварым з нашымі няпрошанымі апекунамі. Бо калі Беларусь жыве як самабытная нацыянальная адзінка, то ясна, што гэтая адзінка будзе расьці і развівацца, будзе ў дрэбязьгі разьбіваць усе перашкоды на сваім гістарычным шляху. Беларусь пойдзе сваім уласным шляхам да свайго адраджэньня і займе належнае мейсца сярод вольныхъ народаў зямлі.

---

Але. Мы жывём у надта шчасьлівым часе. Кожны ў каго бьецца жывое ў грудзёх сэрца, а не кусок гліны, хто любіць праўду і волю, хто мае гонар і сумленьне, хто ня зломнае мае жаданьне імкнуцца ўпярод „да сонца і зор залатых“, хто з болью адчувае несправядлівасьць сучасных варункаў грамадзкага жыцьця, і хто хоча працаваць на карысьць сваей бацькаушчыны — няхай становіцца ў рады актыўных змаганьнікаў за волю народную, за незалежнасьць Беларусі. Кожны будзе магчы знайсьці сабе працу па сваей здольнасьці, кожны атрымае па сваім заслугам!

---

Нам, часамі, кажуць, што няма ў нас літэратуры. А ці чыталі вы, паночкі, нашых селянскіх песьняроў: Янку Купалу, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Цішку Гартнага, Максіма Гарэцкага?...

Не, мусіць, вы не чыталі, калі так кажыця, бо каб хоць раз вы прачыталі, пэўна-б ужо назаўсёды аддаліся з душой і целам справе беларускай. Для вас бы стала ясным, што адзіны ёсьць толькі шлях да шчасьця і волі, гэта—праз нацыянальнае адраджэньне і дзержаўную незалежнасьць прыгнячэнай і паняволенай нацыі ляжыць шлях да міжнарадовай згоды і братоўства, а не праз насільства і асіміляцыю!

Нам кідаюць у вочы, што мова наша простая. Але. Наша мова простая, селянская мова. Мы самі селяне. На гэтай мове гутарылі нашы дзяды і бацькі, у гэтй мове нам песьні пяялі над калыскай, апавядалі казкі. Мы любім сваю



Беларусь праз сотні год цярпела двайны гнёт чужынцаў — нацыянальны і соцыяльны. Проці гэтага гнёту і распачаўся, яшчэ ў дзіветнаццатым сталецьці, беларускі высвабадзцельна-адраджэнскі рух.



мову! Мы сьвядома ідзём к адраджэньню нашай селянскай культуры. А раз будзе пашырацца наша селянскае духоўнае разьвіцьцё, раз мы будзем усе граматны, колькі-ж тады ў нас будзе слаўных песьняроў і пісьменьнікаў, якое вялікае багацьце мы ўнясём у агульна—людзкую культуру!

Але. Ёсьць над чым працаваць ёсьць да чаго прылажыць свае рукі Патрэбна толькі вера ў сябе, ў свае сілы, вера ў свой народ, у вялікую сьветлую будучыну працоўнага селянства. Трэба разумець сучасны пераҗываемы мамэнт, трэба ўсьвядоміць мэты і заданьні беларускага высвабадзіцельна—адраджэнскага незалежніцкага руху, трэба ясна даць адчот аб падзеях на ўсходзе— Эўропы.

— Будзе незалежная Беларусь!

*Антон Небарака.*

## Песьня змаганьня.

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут, у бяседзе такой,
успомнім мы, брацьця, аб долі няроўнай
усіх тых, што церпяць за край родны свой.

З гарачай душою ўсе лепшыя сілы,
што вышлі з народу, з селянскай сям'і—
адных ужо крыюць курганы-магілы,
другія у муках за кратай турмы.

У Познань і Кракаў у далёку чужыну,
Сасланы ў няволю, як быццам на век—
бацькоў старых кінуў і любу дзяўчыну,
а сам церпіць голад і холад і зьдзек.

І тварам збалелым прынікшы да краты
шукае ён зоркі на небі глухім,
каб думкі занесла да роднае хаты,
каб кліч перадала сабрацьцям сваім.

Змагайся мой браце з тыранам народу
з наезднікам панскім—змагайся, як можаш!
змагайся за лепшую долю й свабоду
хоць цяжка змаганьне—а ўсё-ж такі зможаш!.....

. . . . . . . . . . . . .

Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,
пры зборы ўсіх нас тут—прысягу даём:
НЯ ЗЛОМЯЦЬ НАС ВІХРЫ Ў БІТВЕ НЯРОЎНАЙ,—
ЗА ЗЬДЗЕК НАШЫХ ВРАЦЬЦЯЎ МЫ ПОМСТУ НЯСЁМ!......

**Паўлінка.**



Абразкі з праўдзівага жыцьця.

# ЯНКА РУДАК.

Давялося-ж і мне аднаго разу пасядзець у вастрозе. А было гэта ў той час, як палякі першы раз занялі Менск. За што яны мяне пасадзілі, каб яны і жыцьця няведалі—мусіць за тое, што я беларус, а палякам такі, хоць я і каталік —ніколі я ня быў і ня буду.

Што-ж, такім ужо матка мяне на сьвет спарадзіла, а беларуская замелька ўскарміла ды ўзгадавала.

Які з мяне паляк, калі я беларус. Бо ціж можна так, каб з яйка вароны выйшаў буцян, а з яйка буцяна заяц?

Ведома што не, гэткага дзіва яшчэ ніколі на свеці ня бывала.

Кажуць начальства загадала, каб усе каталікі лічылі сябе палякамі. Няхай сабе загадавае, мала што начальства загадавае,—мы свой разум маем. На тое і голова ў нас ёсьць на плячах, каб мы самі абаўсім маркавалі ды рашалі.

А тым часам я сяджу ў вастрозе і прыглядаюся да сваіх суседзяў. Дзіўная рэч гэты вастрог. каго тут нямя—пісьменныя, і жыды, і так звычайныя сабе людзі, а найбольш такі ўсё з нашага брата, ўсё вясковыя людзі ў сваіх селянскіх вопратках.

З пачатку ніяк я ня мог адважыцца з кім небудзь загутарыць.

Усё незнаёмыя людзі. Аб чым я буду з імі гутарыць? От, сяджу я сабе маўчкі ў сваім кутку ды разважаю пра сябе аб людзкой долі.

А думкі, калі чалавек нічым не заняты, так і лезуць у тваю голаў. Шмат я тагды перадумаў а добрым і а благім..

На супроці мяне ў другім канцы нашай камяры сядзеў, так сама селянін, і, таксама, як і я, праз увесь час маўчаў. Аб чым ён думаў, хто яго там ведае, але ні з кім ані слоўцам не перакінуўся, а за ўсёды неяк вельмі жаласьліва на ўсіх глядзеў ды нешта ўсё пра сябе шаптаў, быццам, пацяры мовіў.

Мяне ён надта зацікавіў.

Дыў то сказаць. Нас і так кармілі блага, а ён дык і гэнай ады не хацеў браць. Проста з голаду чалавек памірае.

Іншыя пачалі сьмееяцца над ім, а мне шкада яго стала.

Думаю, як бы гэта з ім загутарыць. Аж тут якраз прывязлі мне з дому пасылачку. Давай я ўсіх патроху частаваць. Запрапанаваў і яму—ня прыміць думаю. А ён паглядзеў на мяне і ціхім голасам сказаў: „шчыра дзякую браце“...

Перадаўшы яму пачастунак, я падсеў да яго, сяк-так разгутарыліся, обзнаёміліся, падружыліся і з таго часу мы былі ўжо неразлучнымі сябрамі. Ён і разсказаў мне аб сваім гаротным жыцці. Калі вас гэта цікавіць, то паслухайце.

А было гэта вось так.

Яшчэ васьмілетнім хлапучком ён застаўся круглым сіратою. Раней памёрла яго маці, кажуць ад родаў мусіць памёрла, ён нават і ня помніць яе,—а бацьку запомніў крыху, памагаў яму быдла пасьціць у панскім двары.

Родні блізкай ня было і хлапчук-сірата застаўся там гадавацца.

Пан быў ужо стары. Яго двор (фактычна ня двор, а фальварк) быў надта запушчаны. Было шмат даўгоў. І былі ў гэнага пана дзьве дачкі, амаль-што, равесьніцы Янкі Рудака (такое было прозьвішча майго вострожнага сябры) Старшую дачку называлі панна Антося, а малодшую панна Эўгенія.

Янка Рудак быў вельмі рахманы і ўдалы дзяцюк. Быў добры работнік,—меў вялікую здольнасць да ўселякай працы. Бывала, что ня возьміць то і зробіць. Работа з рук ягонікoлі не валіл ася.

Панна Антося мела добрае дзявочае сэрца. Пакахала яна работніка Янку Рудака, дый ён яе пакахай саўсей шчырасьцю сваей селянскай душы. Кахаліся яны так праз даўгі час, паціхоньну кахаліся, ніхто аб іх каханьні ня ведаў.

Але памёр стары пан. Ня было каму вясьці гаспадарку. І панна Антося азяла ў прыймы къ сабе Янку Рудака,—зрабіла яго панам і ўжо ён стау звацца не Янка Рудак, а Ян Рудковскі.

Жылі Яны паміж сябе ў згодзе. Старанна азяліся за працу і хутка направілі запусьцелы фальварак.

У пряцягу чатырох гадоў пабудавалі сабе новую хату, абору, справілі малацілку, жнейку ды іншыя гаспадарскія прылады. Расплаціліся з даўгамі.

Радзіўся, тым часам, у іх сынок, а пасьля і дачушка здавалася, што настаў час радосьці і шчасьця. Але ня тое выпала на долю мужыцкаму сыну.

Выбухла вайна. Змабілізавалі яго ў войска.

Разьвітаўшыся з жонкай і дзяцьмі, пайшоў ён у сьвет. На вайне ён быў раняны і папаў у нямецкі палон.

І вось, праз тры з паловаю гады, вертаецца ён да жонкі і да сваіх дзяцей.

Але тут і спаткала яго вялікае нешчасьце. У хаце праз гэты час адбыліся значныя перамены.

Панна Эўгенія вышла замуж за Бранiслава Ракіцкага (суседняга, даволі заможнага шляхцюка). А ведома, без мужчыны няма ў хаце ладу. Убачыўшы гэта, Ракіцкі пачаў гаспадарыць у сваім і ў жончыным фальварку. А праз нейкі час, ён так лоўка падстроіў, што гэныя абодвы фальваркі аб'еднаў у адзін і пераехаў жыць на стала ў жончын, бо той быў шмат лепшы і больш ураджайная зямля.

А калі была бальшевіцкая ўлада, то Браніслав Ракіцкі, прыкінуўшыся бальшавіком, быў назначаны камісарам у гэны фальварак.

Вось у гэты самы час і вярнуўся з палону Янка Рудак.

Ня ўсьпеў ён переступіць і парога сваей хаты і правітацца з жонкай і дзяцьм—зараз-жа (па даносу Ракіцкаго) быў арыштаваны і пасаджаны ў вастрог за тое, што быццам-то ён вёў агітацыю проці бальшавіцкай улады.

Бальшавікі трымалі яго ў вастрозе, аж да прыхода палякаў.

Пры паляках з пачатку быў ён звольняны, але праз тыдзень яго арыштавалі, йзноў па даносу Ракіцкаго які пры паляках заняў пасаду начальніка павятовай міліцыі.

Абвінавачывалі Янку Рудака ў бальшавіцкай агітацыі, што нібы-то ён ужо етаў бальшавіком.

Вот і ўсё маё апавяданьне.

Судзіця самі пяцерака хто праў, а хто вінаваты і за што так мучаюць беднага чалавека.

**Мілош.**

# Мы не дбаем...

(Пераробка з Міцкевіча).

Мэлёдыя песьні: Nie dbam jaka spadnie kara...

Мы не дбаем, што вастрогі,
Ланцугі, шнуры нагайкі—
Ненавідзім колькі зможам
Польскай, панскай чрезвычайкі.

У вастрогах маем веру,
З ланцугоў, жалезныхъ кратаў—
Зробім мы калісь сякеру
На галовы панскіх катаў.

Як іх цар душыў, крычалі:
„Польшч сьвятая, Польшч ахвяра“,
А цяпер самі пачалі
Нас душыці горш ад цара.

І паны нас мучаць у путах
Горш ад маскалёў катуюць
І на беларускіх трупах
Сваю „вольну“ Польшч будуюць.

Ой, ідзе пара такая,
Люд здабудзе помсты сілу,
Што ўся панска воўча хэўра—
У нас спаткае гроб-магілу!

**Г. Л.**

# Покліч

Гэй даволі цярпець,
Горькі сьлёзы глыкаць—
Сьлёзы зьдзеку, пагарды і гора.
Падымайся народ
Устань на ногі хутчэй,
Ускалыхніся жывое ты мора!

Паглядзі навакол,
Што зрабілі з табой,
Што лічыў ты за госьцяў мо' родных—
Яны зьбілі сябе,
А дзяцей усіх тваіх
разагналі па сьвеце галодных.

Што? няўжо будзе век
Гэты глум панаваць,
Вечна будуць над каркам зладзеі?
Будуць біць, катаваць,
Аб'едаць, апіваць
І ніштіожныць у сэрцы надзеі?

Ці ня хопіць у нас
Сілы, моцы ў руках,
Ці ня скінем ярма мы падданства?
Не, — даволі! Устань,
Як адзнім—на зладзеяў, на панства!..

**Ігналь Гудок.**

* * *

Хвалямі горы, даліны лясамі—
Крыўдай і горам працоўны народ—
Усё тут пакрыта агіды слядамі
Польскай апекі... Находзіць чарод
Скінуць апошні ланцуг панаваньня,
Выгнаць без літасьці, польскіх паноў,
І ўваскрасіць хучэй іставаньне
На Беларусі Дзержавы ізноў.

Чыста селянскай, сваей, Беларускай,
Без камуністаў, без польскік паноў—
Гэтаю толькі ты сцемкаю вузкой
Збавіш наш край ад ліхіх чужынцоў.
Крыўды і зьдзекі ўсім нам абрыдлі,
Час надыходзіць да зьдейсненьня мар,
Сьмела расправім варліныя скрыдлы,
Біць як пярун будзем ворагаў з хмар.—

**П. А. Корал**



**Толькі той дастоен праўды і волі, хто кожны дзень у змаганьні яе здабывае!**

0-10

# ЗЬМЕСТ № 3.

стр.




Выдавец: Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства.
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.